**№ 109 (1922)**

Чацвер, 17 чэрвеня 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец: УП «Народная воля»

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +14...+16, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +15...+17, сонечна, уначы — +8...+10, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +14...+16, дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +11...+13, уначы — +7...+9, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +10...+12, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +11...+13, дождж, уначы — +7...+9, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Да галадаючых далучыліся пяцёра віцяблян

Да галадаючых у Мінску дэпутатаў групы "Рэспубліка" далучыліся пяцёра актывістаў віцебскага гарадскога аддзялення Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Аб гэтым БелаПАН паведаміла адна з удзельніц галадоўкі Іна Сяткоўская.

Паводле яе слоў, рашэнне аб галадоўцы было прынята 14 чэрвеня. Галадаючыя — **Іна СЯТКОЎСКАЯ, Эла КАНАВАЛАВА, Таццяна ЗАЙКОВА, Лідзія ФРАНЦАВА і Фёдар БАКУНОЎ** — знаходзяцца на адной з прыватных кватэр Віцебска. *"Мы падтрымліваем дэпутатаў і вылучаем тыя ж патрабаванні: "Не — трэцяму тэрміну!", "За справядлівыя выбары!" "Свабоду Марынічу!"* — сказала І.Сяткоўская.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Дэпутаты бундэстага падтрымалі галадоўшчыкаў

Прадстаўнікі фракцыі сацыял-дэмакратаў пры нямецкім бундэстагу распаўсюдзілі заяву ў сувязі з галадоўкай беларускіх дэпутатаў групы "Рэспубліка" Валерыя Фралова, Уладзіміра Парфяновіча, Сяргея Скрабца і тых, хто да іх далучыўся.

Дэпутаты бундэстага заклікаюць іншых нямецкіх палітыкаў падтрымаць сваіх калег у Беларусі, якія супрацьстаяць аўтарытарнаму рэжыму і выступаюць за развіццё дэмакратыі ў краіне. Нямецкія парламентарыі спадзяюцца на мірнае заканчэнне галадоўкі.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Затрымалі і адпусцілі

Двое актывістаў незарэгістраванага маладзёжнага руху "Зубр" **Аляксей Шыдлоўскі** і **Аляксандр Атрошчанкаў** былі затрыманы 15 чэрвеня на Камароўскім рынку ў Мінску супрацоўнікамі праваахоўных органаў.

Маладыя людзі распаўсюджвалі ўлёткі з інфармацыяй пра галадоўку дэпутатаў парламента Валерыя Фралова, Уладзіміра Парфяновіча і Сяргея Скрабца. У супрацоўнікаў міліцыі ўзніклі сумненні ў законнасці вырабу друкаванай прадукцыі. У выніку каля ста ўлётак былі канфіскаваны. Актывістаў руху адпусцілі пасля пісьмовых тлумачэнняў.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Саюз беларускіх пісьменнікаў запрашае

**18 чэрвеня а 18-й** гадзіне ў вялікую залу Дома літаратара (Мінск, вул.Фрунзе, 5) на юбілейную вечарыну, прысвечаную **80-годдзю з Дня нараджэння Васіля БЫКАВА.**

У праграме — прэзентацыя новай кнігі Васіля Быкава **"Парадоксы жыцьця"**, выступы пісьменнікаў Беларусі і замежных краін, а таксама прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў. Уваход вольны.

**SOS!**

*Генадзь БУРАЎКІН:*

# «Хай нехта ў трубы ўлады дзьме — Вы ў іх не дулі і не дуеце... Каб голаду народ не меў, Вы самі сёння галадуеце»

## *Галадоўка: пятнаццаты дзень*

***Каля трохсот неабыякавых грамадзян без уліку журналістаў, некаторых лідэраў палітычных партый і грамадскіх арганізацый, прыйшлі ў аўторак, 15 чэрвеня, да жылога будынка на Казарменным завулку ў Мінску, дзе ладзяць свой, як кажуць англічане, "хангер-страйк" тры дэпутаты Палаты прадстаўнікоў — Валерый Фралоў, Сяргей Скрабец, Уладзімір Парфяновіч, а таксама сем іншых удзельнікаў: Марына Багдановіч, Генадзь Ананьеў, Уладзімір Чырвоненка, Юрый Істомін, Уладзімір Радзівончык, Віктар Івашкевіч, Уладзімір Цыбульскі. Людзі прыйшлі, каб выказаць галадоўшчыкам шчырыя словы сваёй падтрымкі і салідарнасці. Калі перад выбаршчыкамі выступалі Валерый Фралоў і Сяргей Скрабец, на вачах некаторых я бачыў слёзы...***

Нагадаем, дэпутаты патрабуюць ад сваіх калег-"палатнікаў" разглядзець папраўкі ў Выбарчы кодэкс, вызваліць з-за кратаў Міхаіла Марыніча і не дапусціць трэцяга тэрміну прэзідэнцтва Лукашэнкі.

Цяжка дыхаючы і старанна вымаўляючы кожнае слова, **Валерый Фралоў** падзякаваў *"усім, хто яго і яго сяброў падтрымлівае і аказвае дзейную дапамогу ў акцыі пратэсту"*, а таксама адзначыў, што *"галадоўка дазволіла на вельмі многае паглядзець крыху пад іншым вуглом — у тым ліку на сваіх паплечнікаў і на сяброў"*.

*"Восень будзе вельмі гарачай,* — лічыць В.Фралоў. — *Менавіта гэтай восенню павінна кардынальна змяніцца сітуацыя ў Беларусі, а мы зажывем у той краіне, якой будзем ганарыцца".*

Дырэктар зачыненага Дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа **Уладзімір Колас** паведаміў прысутным, што генералу Фралову *"зроблена кардыяграма, у яго выяўлены перадінфарктны стан, але адмоўнай дынамікі няма"*, а таксама дадаў, што *"галадоўшчыкі ўвайшлі ў такую стадыю, калі ў любы момант можа здарыцца самае горшае". "Цяжка чакаць ад тых, да каго скіраваны патрабаванні галадоўшчыкаў — абсалютна законныя і абсалютна слушныя, што гэтыя патрабаванні будуць выкананы,* — сказаў У.Колас, — *таму я заклікаю галадаючых спыніць галадоўку — іх жыццё надта дарагое, каб ахвяраваць ім з-за тых, хто таго не варты".*

Ад імя Рады інтэлігенцыі Уладзімір Колас прапанаваў дэпутатам Валерыю Фралову, Сяргею Скрабцу і Уладзіміру Парфяновічу стварыць і ўзначаліць НАРОДНЫ РУХ ЗА СПРАВЯДЛІВЫЯ ВЫБАРЫ, які мусіць *"аб'яднаць усе дэмакратычныя партыі, грамадскія арганізацыі, а таксама ўсіх грамадзян Беларусі, якія пажадаюць выканаць свой грамадзянскі абавязак і зрабіць усё магчымае, каб не дапусціць фальсіфікацый і перашкодаў свабоднаму і сумленнаму волевыяўленню народа".*

Лаканічна, але вельмі хвалюючы выступіў дэпутат **Сяргей Скрабец.** Узгадаўшы нядаўнія рэпрэсіі ўлад супраць моладзі, а таксама тэрмін зняволення, які атрымала за свае акцыі Аксана Новікава, ён сказаў: *"Пакуль рэжым будзе змагацца з дзецьмі і жанчынамі, мы будзем змагацца з гэтым рэжымам. Тое, што ў нас забіраюць за кусок хлеба свабоду, мы гэтага не дазволім. Мы хочам вярнуць нашай краіне каштоўнасці свабоднай дэмакратыі, якая кіруе ва ўсім свеце".*

Новым вершам, спецыяльна прысвечаным мужным галадоўшчыкам, парадаваў прысутных паэт **Генадзь Бураўкін:**

*Хай нехта ў трубы ўлады дзьме —*
*Вы ў іх не дулі і не дуеце...*
*Каб голаду народ не меў,*
*Вы самі сёння галадуеце.*

*Не па наіўнасці сваёй,*
*Спрачаючыся з недарэкамі,*
*Быць хочаце адной сям'ёй —*
*Ну нехта ж вас пачуе некалі!*

*І быць не можа,*
*Каб ані*
*У нас барацьбіты не меліся.*
*Дзяржаўнай злосці і хлусні,*
*Здаецца, ўдосталь мы наеліся...*

*Так хочацца,*
*Каб родны кут*
*Рвануўся ўрэшце з недалужнасці*
*Пасля ўсіх крыўдаў і пакут*
*І пасля вашай мудрай мужнасці!*

Лідэр прадпрымальнікаў **Анатоль Шумчанка** прэзентаваў галадаючым прыгожыя фіялетавыя хрызантэмы: *"У Грузіі была рэвалюцыя роз, а у нас няхай квітнеюць хрызантэмы!"* Фельчар **Аляксандр Валчанін,** які назірае галадоўшчыкаў, прывёз с сабой з Жодзіна каля пятнаццаці чалавек, ды і наогул прыехаў пасля сутачнага дзяжурства (ён працуе на "хуткай дапамозе". — **А.С.**). "Не мог не прыехаць, душа просіць", — кажа Аляксандр. **Генадзь Грушавы** прэзентаваў удзельнікам акцыі ікону, спецыяльна прывезеную з радзімы праваслаўя — Грэцыі. Тэкст па-грэчаскі на адвароце іконы *"Бог не выдасць, свіння не з'есць"* мусіць дапамагчы маральнаму духу ўдзельнікаў акцыі.

Ледзь не выкінулі з пляцоўкі перад домам, дзе праходзіла сустрэча з выбаршчыкамі, здымачную групу Беларускага тэлебачання. Пасля папроку ў адрас тэлевізіёншчыкаў з боку прэс-сакратара Фралова **Уладзіміра Дзюбы** наконт таго, што бэтэшнікі наўмысна выключаюць камеру падчас станоўчых, эмацыянальных момантаў — уручэнне кветак, чытанне Генадзем Бураўкіным верша і г.д., народ



*Нягледзячы на дождж, яны прыйшлі падтрымаць змагароў...*

падверг прадстаўнікоў так званага нацыянальнага тэлеканала гучнай абструкцыі: выкрыкі "БТ — ганьба!" можна было чуць на працягу хвілін сямі.

Калі сустрэча з галадаючымі дэпутатамі мякка перайшла ў жывыя гутаркі "па інтарэсах", журналісты "Народнай волі" звярнуліся да некаторых грамадзян. І вось якія пачулі каментарыі:

***Наталля КАЧАНОЎСКАЯ, выкладчык англійскай мовы:***

— Я падтрымліваю мужны крок дэпутатаў і тых, хто далучыўся да іх. Некаторыя ў нас на працы сцвярджаюць: галадоўка — гэта нецывілізавана. А калі няма іншага выйсця? У нас, на жаль, такая краіна, што іншыя метады проста не працуюць. Лічу, што ў выпадку, калі "палатка" не згодзіцца з прапановамі галадаючых дэпутатаў, ім трэба спыніць галадоўку. Нам досыць ужо ахвяр!

***Аляксандр ЖУЧКОЎ, старшыня праўлення грамадскага аб'яднання "Фонд імя Льва Сапегі":***

— Гэта акцыя вельмі мужная. Я схіляю галаву перад іх мужнасцю і жадаю ім здароўя. Што тычыцца вынікаў галадоўкі, то лічу, што з боку грамадства будзе псіхалагічны вынік, але на ўлады гэта не паўплывае. Тыя, хто сёння ва ўладзе, надзвычай таўстаскурыя.

***Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, пісьменнік:***

— Што мяне тут усцешыла — гэта тое, што ёсць сёння людзі, здольныя на ўчынак. На сапраўдны мужчынскі ўчынак. Знайшліся нармальныя мужыкі, якія прынялі рашэнне і стаяць на сваім, нягледзячы ні на што.

Што мяне засмучае? Многія нашы людзі так зняверыліся ў магчымасць якіх-небудзь вынікаў, што нават на гэтую акцыю, якая небяспечная для яе ўдзельнікаў, ставяцца так, што, маўляў, хай сабе галадаюць, нібы гэта нейкае лячэбнае галаданне.

На што я спадзяюся? На тое, што гэтая галадоўка можа зрушыць з мёртвай кропкі рэзервовыя магчымасці грамадства і паўплываць на самую небяспечную для Беларусі рэч — магчымасць трэцяга тэрміну Лукашэнкі.

***Людміла СЯРГЕЕВА, служачая:***

— Я цалкам падтрымліваю галадоўку дэпутатаў, таму і прыйшла сёння да гэтага дома ў Казарменным завулку. Лічу, што гэта своечасовы, мужны ўчынак, якіх даўно не было. Народ стаміўся ад такога жыцця. А галадоўка гэтых змагароў прымусіла задумацца аб тым, што трэба нешта змяніць у лепшы бок.

У рэдакцыю "Народнай волі" паступае нямала лістоў, адрасаваных галадаючым. Бачна відавочная перамена ў настроях і інтанацыях іх аўтараў. Традыцыйныя гучныя словы ў падтрымку галадаючых змяніліся занепакоенасцю за іх жыццё і стан здароўя, многія заклікаюць спыніць галадоўку. Вось які зварот, падпісаны чатырнаццаццю грамадзянамі, прыйшоў з Вілейкі: *"Паважаныя дэпутаты і іншыя галадаючыя! Мы падтрымліваем і ўхваляем Ваш гераічны ўчынак! Вы паказалі ўсяму свету і народу Беларусі, што ёсць яшчэ людзі, не згодныя з кананнем нашай Радзімы, якія гатовы змагацца з рэжымам Лукашэнкі, нават ахвяруючы сабой. Галоўнае Вамі ўжо зроблена! Але дыктатара немагчыма перамагчы такім метадам. Таму мы, жыхары горада Вілейкі, просім Вас — спыніце галадоўку, не даводзьце сябе да крытычнага стану. Гэта будзе толькі на карысць Лукашэнку".*

А што ж калегі "апальных" дэпутатаў па Палаце прадстаўнікоў? Яны робяць выгляд, што галадоўка — гэта асабістая справа тых, хто пайшоў на такі крок. Што ж, за іх сваё слова скажуць выбаршчыкі.

**Алесь СІЛІЧ,**
**Віталь ГАРБУЗАЎ.**
**Фота photo.bymedia.net**

**P.S.** *Інфармацыю пра галадоўку пратэсту вы зможаце знайсці на сайце www.golod.info. Пісьмы адпраўляйце на адрас: 220010, г.Мінск, вул.Савецкая, 11, Палата прадстаўнікоў, дэпутату Фралову В.Д.*

*Людмила ГРЯЗНОВА*

## Библейский миф

**Во все времена жестокие правители боялись жертвенных поступков моральных авторитетов.**

**Махатма Ганди, голодавший сорок шесть раз, собственным примером вдохновил индийский народ на мирную борьбу против английских колонизаторов.**

**Андрей Сахаров своими голодовками приводил в состояние паники всю властную советскую вертикаль — от оперативного работника КГБ до генерального секретаря ЦК.**

**Политзаключенные пермских и мордовских лагерей, объявившие голодовку 30 октября 1974 года в знак протеста против репрессий в Советском Союзе, подтолкнули распад тоталитарной системы.**

**В 1989 году на площади Тяньаньмэнь в Пекине сотни студентов, устроившие голодовку, поддержанные тысячами демонстрантами, разбудили сотни миллионов китайцев и заставили власть, пусть не сразу, но пойти на демократические уступки.**

**Политическая голодовка является мощным оружием, подрывающим режимы. Что может сделать власть против голодающих, которые не берут в руки оружия, не произносят оскорбительных слов, а с чувством собственного достоинства, как Христос, взошедший к распятию, жертвуют собой ради общей справедливости? На них нельзя послать войска — противник безоружен и не предпринимает никаких наступательных действий. На них нельзя науськать суд — никакие законы не нарушаются, ничьи права не ограничиваются. Но чем дольше длится политическая голодовка, чем больше о ней знают в обществе, тем быстрее страх перед властью сменяется чувством народной поддержки тех, кто отчаялся на жертвенный акт. Подвальная сырость режима рассеивается от солнечного света человеческих чувств. Общественное мнение, уставшее от эгоизма власти, поворачивается лицом к альтруизму оппозиционеров.**

**Две недели в Минске голодают депутаты Владимир Парфенович, Сергей Скребец, Валерий Фролов и поддержавшие их Марина Богданович, Геннадий Ананьев, Владимир Червоненко, Юрий Истомин, Владимир Радивончик, Виктор Ивашкевич, Владимир Цибульский. В течение пяти лет депутаты пытались достучаться до власти и конструктивно повлиять на политику в стране. Все было напрасно. Парламент тихо "хаваўся ў бульбу", коллеги-депутаты перешептывались, боясь заявить в полный голос о том, что творится в стране. Как деньги текут мимо государственного бюджета, как под угрозу ставится суверенитет государства, как душится всё белорусское, как деградирует и спивается население... Отчаявшись, парламентская и непарламентская оппозиция пошла на неконструктивный шаг — на политическую голодовку. Их требования — изменить избирательное законодательство, с тем чтобы парламентские выборы были действительно выборами, освободить из заключения Михаила Маринича и не допустить третьего срока Александра Лукашенко. До каких пор в стране семь миллионов голосов ничего не стоят против одного голоса? Почему несколько человек из Центральной избирательной комиссии, игнорируя требования общественности, бегают на поклон к обладателю "золотого" голоса? На каких основаниях держат уважаемого человека в тюрьме — только чтобы остальные боялись и падали ниц перед тем, кто идет на третий срок?**

**Реакция власти на мужественный акт депутатов и активистов оппозиции вполне предсказуема. Акцию будут замалчивать в государственных газетах, на государственном радио, телевидении. Если Россия также молчит, то она заодно с белорусским руководством. Цель — не дать солнечному свету рассеять подпольную сырость.**

**Со стороны власти можно ожидать насильственного прекращения голодовки, а также провокаций. Виктора Гончара, объявившего голодовку на Окрестина, связывали и насильно вводили глюкозу. Могут провоцировать соседей, чтобы они написали заявление о неудобствах, причиняемых посетителями служебной квартиры Фролова. Могут провоцировать голодающих и их сторонников на несанкционированные действия, чтобы на основании закона применить силу государственной машины.**

**Политическая голодовка не раз приносила успех — свидетельства истории тому подтверждение. Это ненасильственное действие рушило многие тоталитарные конструкции. Библейский миф о Христе, взошедшем на крест, не только породил христианскую религию, но и остался в подсознании миллионов людей, преклоняющихся перед жертвенностью одиночек ради общего блага. Достаточно небольшого толчка, чтобы миф, спящий в подсознании, пробудился и стал материальной силой.**

**ПРАПАНОВА!**

## Зрабіце падарунак тым, хто набліжаў Перамогу

На пачатку ліпеня краіна будзе адзначаць 60-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Выкажам падзяку тым, хто набліжаў Перамогу. Уручым не толькі кветкі, але і... падпіску на "Народную волю" на другую палову 2004 года.

Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны будуць задаволены такой увагай з боку кіраўнікоў арганізацый, устаноў, прадпрыемстваў, фірм, прафсаюзных камітэтаў, партый.

Падарунак у выглядзе падпіскі на "Народную волю" Вы можаце зрабіць сваім родным, суседзям, саслужыўцам.

Дапаможам мецць "Народную волю" ўсім, хто хацеў бы чытаць яе змястоўныя матэрыялы штодня.

Падпіска на другую палову 2004 года заканчваецца 25 чэрвеня.

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

## У інтарэсах здароўя галадаючых...

*Кіраўнікі і прадстаўнікі ўсіх адзінаццаці дыпламатычных місій Еўрапейскага Саюза, раскватараваных у Мінску, уключаючы пасольствы Вялікабрытаніі, Францыі, Германіі, Польшчы, Славакіі, Балгарыі і іншых, учора днём наведалі галадоўшчыкаў. Галоўная мэта візіту — пераканаць іх у тым, што ў сувязі з пагаршэннем стану здароўя мэтазгодна спыніць галадоўку. Вось эксклюзіўныя каментарыі, якія далі дыпламаты "Народнай волі":*

***Браян БЭНЕТ,** пасол Яе Вялікасці Каралевы Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь:*

— Мы вырашылі прыехаць сёння сюды, каб прадэманстраваць нашу салідарнасць з мэтамі людзей, якія сплаціліся вакол генерала Фралова, а таксама папрасіць Фралова і яго сяброў прыпыніць галадоўку ў інтарэсах іх здароўя, каб яны змаглі потым працягнуць барацьбу за лепшую будучыню Беларусі.

***Хельмут ФРЫК,** пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь:*

— Гэтая галадоўка яшчэ раз дэманструе, што ў вашай краіне дыялог паміж апазіцыяй і кіраўніцтвам краіны неабходны, жыццёва неабходны — дзеля будучыні гэтай цудоўнай краіны — Беларусі.

***Стэфан ШМЯЛЕЎСКІ,** пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь:*

— Зноў прыехаць да галадоўшчыкаў нас падштурхнуў час, які прайшоў з моманту пачатку галадоўкі: галадаць стала значна больш небяспечна. Кіраўнікі дыпламатычных місій зноў пацвярджаюць, што Еўрапейскі Саюз раздзяляе заклапочанасць гэтых людзей па тых трох пунктах, якія падштурхнулі іх да аб'яўлення галадоўкі. Аднак, зыходзячы з пачуцця гуманнасці, кіраўнікі дыпламатычных місій Еўрапейскага Саюза заклікалі галадоўшчыкаў спыніць галадоўку, з тым каб захаваць здароўе і выкарыстаць усю іх палітычную мужнасць, якую яны даказалі на справе, на карысць будучыні сваёй краіны.

***Ёзэф МАЧЫШАК,** пасол Славацкай рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь:*

— На кожным этапе развіцця грамадства (я магу казаць пра сваю краіну) у нас былі трагічныя наступствы многіх спроб мужных грамадзян, якія былі не згодны з існуючым рэжымам. Са шматлікіх мужных крокаў, якія, як цаглінкі, кладуцца адна да адной, можна пабудаваць цудоўны будынак. Мужным крокам можна назваць дзеянні генерала Фралова і яго паслядоўнікаў, якія атрымалі падтрымку ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. І гэта не можа не адлюстравацца на наступных кроках развіцця беларускага грамадства. Але мы прапанавалі галадоўку прыпыніць, каб гэтыя людзі здолелі працягваць змагацца за гэтае развіццё.

**Алесь СІЛІЧ.**

# Письма генералу Фролову

*Пятнадцатый день испытывает большие мучения депутат Палаты представителей, генерал В.Фролов. Он голодает в знак протеста против того, что в избирательный закон не вносятся изменения по его демократизации. Рядом с ним такие же патриоты, люди, одержимые идеей спасти Беларусь от дальнейшего сползания к диктатуре. В предлагаемой читателям публикации через депутатскую почту Валерия Дмитриевича Фролова поднимается важная тема — отношение государства к ветеранам.*

## «Наша память идет по крутой партизанской тропе?»

Разработанный Министерством труда законопроект "Об упорядочении льгот..." уже несколько месяцев находится в Палате представителей. Этот документ предлагает лишить ветеранов двух существенных льгот: им не будут выплачивать денежную компенсацию вместо неиспользованного санаторно-курортного лечения, не будут проводить ремонт жилых помещений за счет бюджета.

Не будут, если этот проект станет законом.

Депутат Валерий Фролов и парламентская группа "Республика" категорически против такого решения. "Против, с оговорками" и немалое количество даже очень лояльных к власти депутатов. Поэтому документ пока лежит "мертвым грузом" в парламенте. Депутатов не подгоняют. Совестно и боязно, видно, руководству страны накануне праздника обижать ветеранов. Но после празднования 60-летия освобождения Беларуси к этой теме могут вернуться снова... Так что не зря люди волнуются, пишут во все инстанции.

У депутата Палаты представителей генерала Фролова таких "криков души", мелко исписанных листов от узников концлагерей, малолетних солдат, ветеранов Великой Отечественной накопилась целая стопка.

*"Меня арестовали 18 февраля 1944 года. В то время я работала уборщицей в аптеке для гражданского населения и передавала через сестру лекарства и разные сведения в партизанский отряд имени Кирова. На допросах избивали, сажали в одиночку... В конце мая привезли в Освенцим. Там сразу же раздели, построили и погнали в газовую камеру... Спасли нас узники, работающие на территории... Мой номер 79914.*

*В конце марта погрузили в вагоны-телятники по 70-80 человек и повезли расстреливать... Привезут в тупик, поставят пулеметы под откосом и объявляют: сейчас будем вас расстреливать. Но за нашим эшелоном следили члены Общества Красного Креста. Потому нас так и возили до 8 мая 1945 года..."* Это письмо 82-летней **Любови Яковлевны КАРПОВИЧ.** *"Если отменят льготы, то и на питание ничего не останется..."* — признается женщина. И искренне недоумевает, за что с ней хотят так поступить? Почему Родина вдруг посчитала, что слишком дорого ей обходятся бывшие узники концлагерей?

Похожее письмо прислала и **Наталья Федоровна РАДЧЕНКО:** *"Многие из нас уже прикованы к постелям, а у тех, кто еще на ногах, здоровье — хуже некуда. Мы все очень нуждаемся в бесплатных лекарствах, скидках на коммунальные услуги, а те, кто еще ходит, — в бесплатном проезде. Мы боролись, как могли. В других государствах узники концлагерей имеют статус "участников войны"... Очень горько сознавать, что нас накануне шестидесятой годовщины Победы хотят лишить того немногого, что у нас есть..."*

Наталья Федоровна побывала в концлагере Равенсбрюк. С 1939 по 1945 год там было уничтожено 93 тысячи человек. Ей удалось выжить.

Теперь государство считает ее обузой?

*"Я давно хотел высказать свою обиду за все то, что придумывают чиновники под стать Антонины Моровой (министра труда и соцзащиты). Она усмотрела в этих несчастных стариках-инвалидах, пользующихся мизерными льготами, разорение страны. Постановлением Совета министров от 30 июня 1994 года для тружеников тыла, как нас стали называть, была установлена 50-процентная скидка по оплате жилой площади и коммунальных услуг... Теперь и этого лишили...*

*В России солдаты, служившие во время войны и награжденные медалью за Победу над Германией, приравнены к участникам ВОВ. Мне 76 лет, болезней целый букет. Я вас убедительно прошу, господин Фролов, не допустить, чтобы эти бредовые идеи о лишении льгот рассматривало Национальное собрание",* — пишет **Бронислав Петрович МЕЧЕЛЬ,** призванный на службу в Советскую Армию в шестнадцать лет.

Тогда мальчишек одевали в шинели и вручали боевое оружие. Они принимали военную присягу. И если бы был приказ, пошли бы в бой. После Победы их оставили служить на неопределенный срок, растянувшийся на восемь лет. По статистике, из ста несовершеннолетних солдат Великой Отечественной войны пятидесятилетний рубеж перешагивают только двое...

*"Нас уже не так много..."* — основной, печальный аргумент переживших кошмар войны. *"Не лишайте нас последних привилегий..."*

## Показательные «выступления»

Тема защитников Родины генералу Фролову близка по определению. Как депутат он имеет право интересоваться: что делают чиновники разных рангов для того, чтобы участники войны могли достойно встретить очередной юбилей Победы.

На запросы Фролова облисполкомы прислали довольно обтекаемые ответы. Мол, проводим обследования материально-бытовых условий, за счет местных бюджетов обеспечиваем ветеранов всеми прописанными законом льготами.

Брестский облисполком сетует: *"К сожалению, финансовые возможности бюджета не позволяют производить в течение 2004-2005 годов ежемесячные доплаты к пенсиям ветеранов, как в г. Минске, и в плане этого не предусмотрено. Однако наши ветераны без внимания не останутся. К знаменательным датам в жизни нашего общества нужды и запросы ветеранов будут максимально удовлетворены".*

Но почему только к "знаменательным датам"?!

Минский облисполком — единственный, кто с удовлетворением отчитался: очередность на получение кресел-колясок отсутствует, в прошлом году 3 инвалида и 6 участников войны получили квартиры, 17 — бесплатные автомобили "Ока". И необходимые средства на обеспечение инвалидов протезами перечисляются. Вот только восстановительный центр, который эти протезы изготавливает, не справляется с объемом заказов. Оказывается адресная помощь...

Подсчитали: в среднем выплачено по двадцать тысяч на ветерана. Это, скорее, похоже на подачку, нежели на реальную помощь.

Не хватает денег — основной аргумент. На ледовые дворцы хватает, на реконструкцию "Дроздов" хватает, на парад хватает, на праздничные картинки по телевизору — тоже. А на самих ветеранов — нет. Пропагандистская показуха традиционно перевешивает житейские нужды человека.


*(Окончание на 2-й стр.)*

Народная Воля 17 ЧЭРВЕНЯ 2004 г.

# Письма генералу Фролову

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

## «Спите себе, братцы, все придет опять...»

В этом году, как и десятки лет подряд, 3 июля официальные лица будут возлагать цветы к могилам неизвестного солдата. Шестьдесят лет прошло, но до сих пор не захоронены останки нескольких сот тысяч (!) советских воинов. Об этом вскользь говорит и государственное телевидение, называя цифру — восемьсот с тремя нулями. Они все еще неизвестные...

**Историк Игорь КУЗНЕЦОВ:** *"Из этих восьмисот тысяч до двух третей — солдаты, погибшие в начале войны. Тогда шло отступление, потери не фиксировались. Где они захоронены, где находится их прах, до сих пор не выявлено.*

*Самые большие захоронения находятся там, где шли бои в первые десять дней войны, — это район Белостокского выступа (треугольник между Брестом и Гродно), район Налибокской пущи, подступы к Минску, где вела бои сотая стрелковая дивизия... Там нет ни крестов, ни звезд.*

*В 40—50-х годах активно устанавливали памятные знаки на братских могилах. Но уже в начале 60-х партийное руководство спохватилось: огромное количество могил лишний раз подчеркивает, сколько жертв было принесено войне.*

*Дали соответствующую команду: свести их количество к минимуму, уменьшить количество памятных знаков. Условно в районный центр привозили по три-четыре черепа из нескольких братских могил, перезахоранивали. А на месте реальных захоронений без зазрения совести разворачивали сельскохозяйственные работы, строительство. Десятки районов массовых захоронений, которые в сороковых-пятидесятых были выявлены и обозначены, сегодня уже не существуют. А сколько не было выявлено — сложно даже представить.*

*Проблема остается открытой, несмотря на то, что существует специальное Управление увековечения памяти защитников Отечества и жертв войн при Министерстве обороны. Они физически не в состоянии эту работу выполнить.*

*Пятьдесят второй поисковый батальон Минобороны за сезон с весны по осень может поднять прах от полутора до двух тысяч солдат. Понадобится больше 50 лет (!) только для того, чтобы обнаружить все останки, не говоря уже о процедуре опознания и перезахоронения.*

*Раньше в 52-м батальоне было три роты, теперь вообще сократили до двух... Уникальность ситуации в том, что в Беларуси практически свернули поисковую работу, которая проводилась в советское время. То есть белорусским поисковикам-добровольцам запрещено работать на территории страны.*

*Обнаружение захоронения опять-таки не говорит о том, что будут установлены имена. Только у 10—15 процентов солдат были медальоны. Братские могилы фактически обезличены. "Здесь уничтожено около десяти тысяч", "здесь находился концлагерь". И практически нигде нет списка. В масюковщинском лагере смерти уничтожено около 80 тысяч человек, восстановлены имена только нескольких тысяч...*

*Грядет 60-летие освобождения Беларуси, а все продолжается по старой советской схеме. Те, что погибли в окружении, нигде никогда не фигурировали, поскольку не входили в идеологическую концепцию героизма. Окруженцы у нас не считались героями, военнопленные были предателями. Об этих людях не говорят и сейчас. Освещение героизма сегодня проводится по тем же штампам, что и 30—50 лет назад..."*

Ветераны, пожилые люди — наиболее преданные президенту избиратели. И именно на их льготы покушается власть. Может быть, депутатам удастся объяснить, что на святом нельзя экономить. Эти копейки страну не спасут. Как не спасет экономия на памятных знаках на могилах жертв Великой Отечественной.

— Ведь известно, что война не закончена, пока не похоронен последний ее солдат, — сокрушается генерал Фролов. — Мы планируем в ближайшее время проехать с группой по Беларуси и, где сможем, поставим памятные знаки. Конечно, это капля в море, но это даст возможность обратить внимание общества на проблему. Помню, Булат Окуджава пел: *"Спите себе, братцы, все придет опять. Все должно в природе повториться. И любовь, и пули, и вино, и кровь. Времени не будет похмелиться".* Так вот, пусть повторяется только любовь, хватит войны и слез. Но для этого мы должны отдать дань уважения павшим, помогать и беречь солдат Великой Отечественной, которые сегодня с нами. И, естественно, депутаты группы "Республика" сделают все, что в их силах, чтобы "упорядочение льгот" не коснулось ветеранов. Такую, извините, подлость по отношению к ним допустить нельзя".

***

Депутат Фролов думает о тех, кто, пройдя суровыми дорогами войны, выдержав трудные испытания, теперь нуждается в помощи.

А кто поможет генералу Фролову, который вот уже пятнадцатый день голодает? Голодает в знак протеста против действий тех, кто, уцепившись за власть, не замечает страданий народа, уводит его в сторону от мировой цивилизации.

Генералу Фролову, как и всем тем, кто рядом с ним, также нужна помощь.

**Владимир ДУБНОВИЦКИЙ.**

# Людзі павінны ведаць пра схему ахоўных зон урочышча «Курапаты»

Грамадская ініцыятыва "За ўратаванне мемарыяла Курапаты" занепакоена тым, што дагэтуль не апублікавана схема межаў ахоўных зон урочышча, нядаўна зацверджаная ўладамі. Пра гэта заявілі прадстаўнікі ініцыятывы на сваім пасяджэнні.

Так, старшыня міжнароднага грамадскага аб'яднання "Беларуская перспектыва" Валянціна Трыгубовіч зазначыла, што ў СМІ з'явіліся паведамленні аб зацвярджэнні Міністэрствам культуры схемы ахоўных зон тэрыторыі "Месца знішчэння ахвяраў палітычных рэпрэсій 30-х — 40-х гадоў XX стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты". "Грамадскасць лічыць гэта добрым знакам і істотным крокам наперад па шляху канструктыўнага дыялогу ўладаў і грамадства ў справе годнага ўвекавечання памяці бязвінна расстраляных. У свой час члены грамадскай ініцыятывы звярталіся ў Міністэрства культуры, выказваючы занепакоенасць несанкцыянаваным будаўніцтвам у непасрэднай блізкасці ад урочышча. І вельмі важна, што гэтае будаўніцтва было спынена", — сказала В.Трыгубовіч.

Разам з тым вядомы беларускі культуролаг Вацлаў Арэшка падкрэсліў, што "сітуацыя ва ўрочышчы пакуль далёкая ад жаданай". Паводле яго слоў, толькі стыхійная народная мемарыялізацыя ідзе паслядоўна і пастаянна. "Аднак знаходжанне гісторыка-культурнай каштоўнасці ў падначаленні УП "Мінская лесапаркавая гаспадарка" не гарантуе яму бяспекі і належнай захаванасці, бо гэтае прадпрыемства не займаецца пытаннямі мемарыялізацыі і музеефікацыі", — сказаў В.Арэшка.

Вядомы беларускі даследчык сталінскіх рэпрэсій Ігар Кузняцоў мяркуе, што неабходна звярнуцца да міністра культуры Леаніда Гулякі з прапановай разгледзець пытанне аб перадачы мемарыяла іншаму ўладальніку, напрыклад Нацыянальнаму музею гісторыі і культуры або Музею гісторыі горада Мінска, які зараз ствараецца, або адпаведнай структуры Мінгарвыканкама, якая займаецца добраўпарадкаваннем могілак.

Па выніках абмеркавання пытання вырашана накіраваць Л.Гуляку ліст ад шэрагу грамадскіх арганізацый, што ўваходзяць у ініцыятыву "За ўратаванне мемарыяла Курапаты", з просьбай апублікаваць схему зацверджаных межаў ахоўных зон і выслаць у адрас грамадскіх аб'яднанняў копіі гэтага дакумента.

**Марат ГАРАВЫ.**

# У «зону» за прывагаю

З надыходам пашавага сезона некаторыя кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў Гомельшчыны прымушаюць вяскоўцаў ехаць на забруджаныя радыяцыяй тэрыторыі, каб пасвіць там жывёлу і нарыхтоўваць кармы. Сёлета такім чынам паступілі ў КСУП "Камінтэрн" Буда-Кашалёўскага раёна.

Вялікі статак жывёлы я напаткаў на мяжы Буда-Кашалёўскага і Чачэрскага раёнаў, паміж выселенымі пасля Чарнобыля вёскамі Харошаўка і Халочча.

Ля рэчкі Прудоўка змайстраваны адмысловы загон амаль для трохсот цялушак.

Пастухі днююць і начуюць у металічнай будцы на колах, прыцягнутай сюды трактарам з саўгаса "Камінтэрн".

— Наша задача, — кажа пастух Пётр Туманскі, — накарміць цялушак, каб прывага была.

— Тут жа землі забруджаны радыяцыяй!

— Ведаем, што радыяцыя ёсць. Але куды ж цялушак дзяваць? На Месяц жа мы іх не адправім.

— А хто загадаў вам прыгнаць сюды жывёлу?

— Наша начальства — дырэктар Шаўчук Сяргей Раманавіч і галоўны заатэхнік, — паведаміў пастух Туманскі.

Другі даглядчык жывёлы Сяргей Марчанка распавёў пра абставіны перагону статка ў забруджаную зону. Як высветлілася, цялушак перагналі на радыяцыйную пашу яшчэ 29 красавіка.

— Нам сказалі — сюды, — тлумачыць Марчанка, — тут трава добрая. Дырэктар папярэдзіў нават, калі прывага за суткі будзе 500 грамаў на галаву, дык і заробак будзе добры.

Пастухі таксама расказалі, што летась у гэтым месцы іхні саўгас "Камінтэрн" нарыхтаваў шмат сіласу. Для захавання яго скарыстаны былі ямы ў выселенай вёсцы Харошаўка. Узімку сілас вазілі з Харошаўкі на фермы.

Цікаўлюся ў пастухоў: ці ёсць ім нейкія даплаты за працу ў забруджанай зоне?

— Нічога нам не плацяць, — адказвае Пётр Туманскі. — Раней плацілі за радыяцыю, а цяпер адмянілі. Кажуць, няма радыяцыі.

— Можа, саўгас нешта даплачвае? — пытаюся.

— Нічога не даплачвае. Несправядліва гэта, — мяркуе Туманскі.

Пастухі прызналіся, што ім некалькі вусцішна адным у "зоне". Крыху — ад радыяцыі, ад шэрых драпежнікаў, якіх нямала развялося на абязлюдзелых тэрыторыях. Але больш за ўсё пастухі баяцца двуногіх налётчыкаў. "Мабільны тэлефон патрэбны. З ім было б спакайней", — лічаць пастухі.

У адміністрацыі зон адчужэння і адсялення мне паведамілі, што не маюць пакуль сёлета звестак пра выкарыстанне сельгаспрадпрыемствамі забруджаных тэрыторый для сельскагаспадарчых патрэб.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

**На здымку:** *пастухі Пётр Туманскі і Сяргей Марчанка ў "зоне".*

**Фота аўтара.**

РЭЗАНАНС

# Да якіх думак мяне падштурхнуў Рыгор Іофэ

З дня паказу па БТ тых кадраў мінула, здаецца, больш за тры месяцы. Але я ўсё ж да іх хачу вярнуцца. Таму нагадаю сюжэт.

З нейкім асаблівым пафасам паведамлялася аб высновах даследаванняў прафесара геаграфічнага факультэта Рэдфордскага універсітэта ЗША Рыгора Іофэ. Гэты навуковец на аснове аналізу шматлікіх статыстычных матэрыялаў як быццам змог паказаць незвычайна паспяховае развіццё Беларусі пасля распаду СССР.

Такая інфармацыя выклікала ў мяне вялікае здзіўленне. Справа ў тым, што сродкі масавай інфармацыі Беларусі бесперапынна сцвярджаюць, што Захад адносіцца варожа да Беларусі за тое, што яна не падпарадкоўваецца дыктату Захаду і ажыццяўляе свой спецыфічны курс. Пры гэтым нібыта асабліва варожа адносіцца да Беларусі Амерыка. І такія сцвярджэнні з'яўляюцца як бы тлумачэннем таго, чаму сродкі масавай інфармацыі Беларусі вядуць такую зацятую прапагандысцкую вайну супраць ЗША. Напрыклад, амаль увесь 2002 год тэлебачанне Беларусі з дня ў дзень гаварыла аб хуткім наступленні эканамічнага крызісу ў Амерыцы. Затым, калі пачалі згушчацца хмары над Садамам Хусейнам, тэлебачанне Беларусі з дня ў дзень пачало выкрываць імперыялістычныя памкненні Амерыкі. Усе палітычныя каментатары тэлебачання Беларусі былі скіраваны на крытыку палітыкі Амерыкі, якая нібыта жадала толькі захапіць іракскую нафту, а не вызваліць іракскі народ ад сярэднявечнай тыраніі Садама Хусейна. Гэты захоп нафты, згодна з перадачамі тэлебачання Беларусі, выклікае паніжэнне цэн на нафту і прыродны газ, і такім чынам выклікае паніжэнне даходаў Хадаркоўскага і іншых расійскіх алігархаў. Як вядома, гэты лямант замоўк толькі пасля таго, як Хадаркоўскага арыштавалі. Тады каментатары тэлебачання Беларусі пачалі новы наступ на Амерыку. Яны пачалі абвінавачваць ЗША ў асноўным за тое, што палітыка гэтай краіны не ўлічвае нацыянальныя інтарэсы Расіі!

Слухаючы падобныя заявы, я заўсёды задаваў сабе пытанне: што за людзі працуюць на тэлебачанні Беларусі? Чаму яны лямантуюць з-за магчымага паніжэння цэн на нафту і газ? Такое паніжэнне карысна для Беларусі. Узнікае наогул пытанне, чаму тэлебачанне Беларусі ўсю сваю дзейнасць скіравала толькі на абарону чужых інтарэсаў, чаму на тэлебачанні нашай краіны нельга пачуць каментарыяў аб беларускіх інтарэсах?

Менавіта ўлічваючы беспрэцэдэнтную атаку на ЗША, якая вядзецца з боку беларускіх прапагандысцкіх цэнтраў, я страшэнна здзівіўся, што ў Амерыцы ёсць людзі, якія спакойна могуць заяўляць аб тым, што Беларусь імкліва развіваецца і што яна дасягнула за апошні час вельмі вялікіх поспехаў у развіцці сваёй гаспадаркі.

Хаця я поўнасцю згодзен з вывадамі прафесара геаграфічнага факультэта Рэдфордскага універсітэта ЗША Рыгора Іофэ аб тым, што Беларусь за апошні час дасягнула вялікіх поспехаў у сваім развіцці. І мне хацелася б расказаць тут аб некаторых нашых поспехах.

Самы вялікі поспех Беларусі пасля распаду СССР — дэманстрацыя таго, што яна здольна поўнасцю забяспечыць сваё насельніцтва прадуктамі харчавання. Такім чынам, яна паказала ўсяму свету, што здольна існаваць як суверенная дзяржава. А гэта азначае поўную ілжывасць сцвярджэнняў тых палітыкаў і палітыканаў, якія гавораць без упынку аб тым, што Беларусь мае шансы на існаванне толькі ў тым выпадку, калі яна аб'яднаецца з Расіяй ці стане яе часткай.

Праблема забеспячэння прадуктамі ежы — самая галоўная праблема любой дзяржавы, так як паветра, вада і ежа з'яўляюцца галоўнымі фактарамі, якія робяць магчымым біялагічнае існаванне любой істоты, у тым ліку і чалавека.

Вядома, што многія краіны СНД з вялікай цяжкасцю вырашаюць гэту праблему. Як, напрыклад, Расія, якая б магла пракарміць пры нармальнай арганізацыі сельскай гаспадаркі не толькі сябе, але і ўсю Еўропу, 50 працэнтаў прадуктаў харчавання ўвозіць з замежжа. Але Расія можа дазволіць сабе такую палітыку. Яна ж самая багатая ў свеце краіна па запасах нафты, прыроднага газу, каменнага вугалю і іншых выкапнёвых матэрыялаў. Беларусь у гэтым не можа пахваліцца. Яна мае толькі калійную і спажыўную соль, торф і чарнобыльскія радыенукліды. І тое, што яна здольна поўнасцю вырашыць харчовую праблему, трэба разглядаць як выключна важнае дасягненне.

Аднак маюцца і іншыя вельмі важныя дасягненні ў народнай гаспадарцы нашай краіны. Беларусь змагла дасягнуць некаторых поспехаў у мадэрнізацыі асобных прадпрыемстваў з адначасовым пераходам на выпуск новай прадукцыі. Так, у нашай краіне ў апошні час наладжаны выпуск гарадскіх аўтобусаў, тралейбусаў новых марак, цяжкагрузных аўтамабіляў, якія сёння калясяць па ўсёй Еўропе, каляровых тэлевізараў, якія маюць попыт нават у краінах Захаду, і шмат іншай высакаякаснай прадукцыі. Гэта таксама сведчыць аб тым, што Беларусь дасягнула значных поспехаў у народнай гаспадарцы і гэтым засведчыла, што яна здольна на нармальнае існаванне ў выглядзе суверэннай дзяржавы.

Трэба ўлічыць і тое, што Беларусь дасягнула гэтых поспехаў у вельмі складаных эканамічных умовах, калі яна была вымушана траціць велізарныя сродкі на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай катастрофы. У 1990—2000 гадах на гэтыя мэты наша краіна траціла ў сярэднім 10 працэнтаў дзяржаўнага бюджэту. Так як пераадоленне наступстваў гэтай катастрофы не звязана са стварэннем новых тавараў, маёмасці і гэтак далей, затрата сродкаў на мінімізацыю наступстваў чарнобыльскай катастрофы стала дадатковай пастаяннай крыніцай інфляцыі на Беларусі, а гэта значыць прычынай пагаршэння ўмоў жыцця насельніцтва.

Улік складанай абстаноўкі, у якой Беларусь аднназначна пацвердзіла сваё права на існаванне ў выглядзе суверэннай дзяржавы, і дазваляе кожнаму сумленнаму грамадзяніну ганарыцца нашымі поспехамі. Яны былі б яшчэ больш значнымі, калі б Беларусь змагла вырашыць за час суверэннага існавання задачы нацыянальнага будаўніцтва. Бо што сёння прадстаўляе з сябе Беларусь? Любы цвярозы чалавек адкажа на гэтае пытанне так: Беларусь сёння — гэта дзяржава рускіх і рускамоўных чыноўнікаў, ветэранаў партыі, савецкай арміі і карных органаў. Менавіта гэта маналітная публіка сёння на Беларусі і ёсць "народ" Беларусі. Гэты "народ" не можа вынесці сам факт існавання суверэннай беларускай дзяржавы і іменна гэтаму "народу" на Беларусі належыць улада. Дык вось стабільнае існаванне падобнай дзяржавы побач з Расійскай Федэрацыяй немагчыма. Рана ці позна яна павінна стаць часткай Расіі, таму што не могуць адначасова існаваць дзве рускія дзяржавы, асабліва калі яны маюць агульную мяжу.

Мой вывад аб тым, што Беларусь з'яўляецца на самай справе рускай дзяржавай заснаваны на тым, што руская мова з'яўляецца афіцыйнай на Беларусі. А менавіта тое, якая мова выкарыстоўваецца ў якасці афіцыйнай, і гаворыць аб тым, каму належыць улада. Вось характэрны прыклад. Афіцыйнай мовай на Беларусі да кастрычніцкага перавароту была руская мова, так як Беларусь была часткай Расійскай імперыі. Падчас Першай сусветнай вайны частка Беларусі аказалася пад нямецкай акупацыяй. На гэтай тэрыторыі афіцыйнай мовай стала нямецкая. Як толькі нямецкая армія адкацілася ў Германію і на Беларусі з'явіліся рускія бальшавікі, афіцыйнай мовай на Беларусі зноў стала руская мова. У 1920 годзе Ленін паспрабаваў заваяваць Польшчу, але пацярпеў паражэнне пад Варшавай. Прыйшлося адкупляцца ад палякаў перадачай ім вялікіх тэрыторый Беларусі і Украіны. На тэрыторыі, акупаванай палякамі, адразу ж польская мова стала афіцыйнай. У верасні 1939 года ў Заходнюю Беларусь прыйшла руская армія. Адразу ж на тэрыторыі Заходняй Беларусі руская мова стала афіцыйнай. Пачалася Другая сусветная вайна. Уся Беларусь апынулася ў фашысцкім палоне. Афіцыйнай мовай, канешне, стала нямецкая. Беларуская мова была на Беларусі афіцыйнай мовай практычна толькі ў дваццатых гадах мінулага стагоддзя, прытым на вельмі абмежаванай плошчы. Аднак у пачатку трыццатых гадоў Масква пачала палітыку адкрытай русіфікацыі і поўнасцю вынішчыла ўсё, што мела хаця б знешнія адносіны да беларускай нацыянальнай ідэі. Пры гэтым загінула ўся палітычная і культурная эліта Беларусі. Загінула і вялікая колькасць простых людзей. Маюцца сведчанні, што агульная колькасць бальшавіцкіх ахвяр на Беларусі ў перыяд 1917—1941 гадоў склала 1 мільён васемсот тысяч чалавек.

Аб сапраўдным характары сённяшняй беларускай дзяржавы сведчаць і шматлікія іншыя факты. Гэта і перавод навінных праграм першага канала тэлебачання Беларусі выключна на рускую мову і стварэнне так званага Нацыянальнага тэлебачання (АНТ). Гэты канал працуе на сродкі, якія зарабляюць беларускія калгаснікі і беларускія рабочыя, якія ведаюць толькі сваю беларускую мову. Аднак у перадачах АНТ амаль нельга пачуць беларускае слова.

Ва ўсіх дзяржавах, што ўтварыліся на тэрыторыі былога СССР, ідзе працэс нацыянальнага будаўніцтва, мэтай якога з'яўляецца пабудова сапраўды суверэнных дзяржаў, народы якіх будуць мець магчымасць адчуваць сябе гаспадарамі ў сваёй хаце. У гэтых краінах шпаркімі тэмпамі развіваецца нацыянальная асвета, нацыянальная культура і навука. Ва ўсіх іх школы, універсітэты і іншыя навучальныя ўстановы пераводзяцца на родную мову, якая сапраўды стала дзяржаўнай мовай. Толькі ў Беларусі ідзе адкрытая палітыка русіфікацыі.

Як вядома, Масква пастаянна абвінавачвае дзяржавы, што ўтварыліся пасля распаду СССР, у парушэнні правоў рускамоўных меншасцяў. Дык гэтыя паводзіны Масквы яшчэ можна зразумець. Гэта прапаганда скіравана на выкарыстанне рускамоўнай дыяспары ў сваіх палітычных мэтах. Але як зразумець тэлебачанне Беларусі, калі яно таксама выступае з такімі абвінавачаннямі. Такія нападкі вось ужо каторы месяц гучаць у адрас Латвіі. У гэтай краіне, як і ў іншых былых рэспубліках СССР, навучанне ў большасці школ вялося на рускай мове. Гэта стала вынікам палітыкі русіфікацыі нярускіх народаў, якая была адкрыта аб'яўлена на пачатку шасцідзесятых гадоў Хрушчовым. У выніку яе правядзення ва ўсіх нярускіх рэспубліках пачаўся перавод школ з роднай мовай навучання на рускую мову. Па сутнасці, нярускія народы былі вымушаны за свой кошт праводзіць палітыку русіфікацыі.

Зразумела, што падобнай палітыцы павінен быў наступіць канец у тых рэспубліках, якія нарэшце атрымалі свабоду. Да такіх рэспублік адносіцца і Латвія. З якой прычыны гэта краіна павінна сёння праводзіць палітыку сваёй русіфікацыі? Зразумела, што ў сферы школьнай палітыкі Латвія павінна праводзіць толькі такую палітыку, якая адпавядае яе нацыянальным інтарэсам, а не нацыянальным інтарэсам Расіі. І вось у гэтай сітуацыі выпады каментатараў тэлебачання Беларусі супраць Латвіі не чым іншым, як праяўленнем тупога маразму, назваць нельга. Яшчэ можна было б зразумець крытыку з боку ЗША, Вялікабрытаніі і іншых дэмакратычных краін свету, у якіх нейкія праблемы з мовай школьнага навучання наогул прадставіць нельга, але калі крытыка зыходзіць з Беларусі, гэта значыць з краіны, у якой карэннае насельніцтва наогул пазбаўляецца права на адукацыю на роднай мове, то тут ужо і сказаць нічога нельга. Тут наяву цынізм, невядомы ў сусветнай гісторыі. Я прывёў гэты прыклад, паколькі ён вельмі яскрава характарызуе праблему нацыянальнага будаўніцтва на Беларусі.

Праблемы нацыянальнага будаўнітва не з'яўляюцца адзінымі складанымі праблемамі нашай краіны. Беларусь практычна вымірае. Аб гэтым сведчаць афіцыйныя статыстычныя даныя. Гэты працэс пачаўся ў 1994 годзе і развіваецца з узрастаючымі тэмпамі. Так, калі на пачатак 1994 года на Беларусі пражывала 10 мільёнаў 243 тысячы чалавек, то на канец 2003 года было ўжо, калі не памыляюся, толькі 9 мільёнаў 850—865 тысяч чалавек, або амаль на 400 тысяч чалавек менш.

Вядома, што колькасць насельніцтва вызначаецца трыма наступнымі фактарамі: нараджальнасцю, смяротнасцю і знешняй міграцыяй, гэта значыць выездам за межы краіны на пастаяннае пражыванне, ці прыезд з замежжа ў краіну на пастаяннае пражыванне. Аналіз паказвае, што колькасць прыязджаючых на Беларусь прыкладна на 100 тысяч перавышае колькасць асоб, што выехалі з краіны. Такім чынам, міграцыя толькі павялічвала колькасць насельніцтва Беларусі. Прычынамі ж таго, што колькасць насельніцтва Беларусі значна зменшылася ў 1994—2003 гадах, сталі зніжэнне нараджальнасці і павышэнне смяротнасці людзей Беларусі.

Сёння нельга адназначна адказаць на пытанне, якія прычыны выклікалі такое шпаркае выміранне насельніцтва Беларусі. Адной з іх, несумненна, з'яўляецца пагаршэнне эканамічнага становішча нашай краіны. Яно распачалося яшчэ ў сямідзесятыя гады ў былым СССР і стала асабліва значным у апошні час. Даходы на чалавека ў нашай краіне як мінімум у разы два меншыя, чым у канцы 80-х гадоў. Трэба разумець, што і ў савецкі час людзі нашай краіны былі беднымі ў параўнанні э краінамі Захаду. А цяпер адрозненні ў матэрыяльным дастатку паміж Беларуссю і заходнімі краінамі сталі яшчэ большымі. Аб гэтым сведчыць параўнанне валавога нацыянальнага даходу на душу насельніцтва Беларусі. У 1995—2000 гадах ён складаў толькі каля 1300 долараў на чалавека ў год супраць 34 тысяч 800 долараў у Злучаных Штатах Амерыкі. Вось і вымірае насельніцтва нашай краіны. Гэта праблема, напэўна, невядома прафесару Рэдфордскага універсітэта пану Рыгору Іофэ, і таму ён бачыць толькі станоўчыя факты ў нашым жыцці. А магчыма, ён наш зямляк, і ягоныя адносіны да Беларусі проста дыктуюцца дзіцячымі ўспамінамі, якія ў большасці нармальных людзей афарбаваны ў ружовы колер. На магчымасць таго, што пан Рыгор Іофэ паходзіць калі не з Беларусі, то з іншага рэгіёна былога СССР, паказвае цудоўнае веданне ім рускай мовы. Гэта засведчыла тэлефонная размова, перададзеная ў адной з праграм тэлебачання Беларусі.

**Міхась МАЛЬКА, навуковец.**

*Мінск.*

# Беларусь не почувствует заката Европы

**Сергей ПУЛЬША**

Выборы в Европейский парламент, которые завершились в воскресенье, практически вся мировая пресса комментирует вполне по Шпенглеру: "Закат Европы". "Апатия затмевает триумф демократии" — под этим заголовком "Таймс" сообщает своим читателям, что "избиратели по всей Европе устроили впечатляющий демократический мятеж, отвергнув свои национальные правительства, Европейский Союз и первые паневропейские выборы, просто отказавшись голосовать".

*"Масштабы этого мятежа были такими, что Европейский Союз переживает острый кризис легитимности всего за неделю до того, как ему предстоит договориться по вопросу о своей конституции",* — пишет газета.

В странах Восточной Европы к избирательным урнам пришли лишь около 29% избирателей. Впрочем, и в "старой Европе" явка избирателей составила только 47,7%.

Правящие партии в Германии, Франции и Польше потерпели поражение, причем основные успехи — у партий и движений, которые выступают против Европейского Союза. По мнению экспертов, новые граждане Евросоюза еще не очень понимают, чем важен Европарламент, или считают, что тон в нем все равно будут задавать богатые западные страны.

При этом сторонники вхождения Беларуси в Евросоюз не считают европейскую апатию большой проблемой. Например, один из координаторов Европейской коалиции "Свободная Беларусь" **Андрей Санников** сказал *"Белорусским новостям"*, что кризиса в Европе он не видит:

*— Низкая явка избирателей в Европе все равно не является неявкой. Выборы состоялись, результаты их были предсказуемы, и обусловлены они внутриполитической ситуацией в странах Евросоюза. Европа — развивающийся организм, выборы прошли после приема десяти новых членов, и это тоже повлияло на результат. Но кризиса я не наблюдаю.*

*Что касается дальнейшей политики Европы по отношению к Беларуси, то ее развитие я связываю не с выборами, а с тем, что в Европу вступили наши соседи. На нашу страну с одинаковых позиций смотрят силы, которые в ЕС между собой соперничают. И я надеюсь, что отношение Европы к нам станет более трезвым, вырастет поддержка гражданского общества и демократии в Беларуси в целом.*

Политолог **Андрей Федоров** тоже не прогнозирует особых перемен в политике Евросоюза по отношению к Беларуси. Однако настроен он значительно более скептически, чем Андрей Санников.

*— Европейские проблемы с выборами не закончились. В ближайшее время планируется принятие Конституции ЕС. Европа еще долго будет заниматься своими проблемами.*

*В связи с этим я не думаю, что политика Евросоюза по отношению к новым странам-соседям будет как-то меняться или корректироваться. Скорее всего, в связи с непростыми внутренними проблемами руки у Европы не дойдут до Беларуси еще дольше, чем это было бы в нормальной ситуации, без подобных результатов выборов. Европейского внимания к нашим проблемам ждать сейчас, увы, не приходится.*

Таким образом, скорее всего, Европа будет прежде всего преодолевать апатию своих граждан и снимать противоречия внутри ЕС. В этой ситуации странам-соседям, к которым относится и Беларусь, большого внимания от Евросоюза ждать не следует.

*("Белорусские новости".)*

ПУЛЬС

## Герхард Шродэр падзякаваў школьніку з Брэста

Дзесяцігадовы школьнік з Брэста Яраслаў Сафонаў атрымаў падзяку ад канцлера ФРГ Герхарда Шродэра за віншаванне з 60-гадовым юбілеем.

Як расказаў бацька Яраслава Вадзім Сафонаў, у снежні мінулага года яны з сынам павіншавалі лідэраў многіх еўрапейскіх краін з Нараджэннем Хрыстовым, у тым ліку і кіраўніка Германіі. Пасля навагодніх святаў у Брэст прыйшоў ліст ад Шродэра, у якім канцлер дзякаваў Яраславу за ўвагу. У канверт была ўкладзена фатаграфія канцлера з яго ўласным аўтографам. Па гэтым здымку хлопчык зрабіў графічны партрэт Герхарда Шродэра, які напярэдадні юбілею канцлера адправіў разам з віншаваннем у Берлін. У лісце з падзякай, які быў дасланы на адрас Яраслава 10 чэрвеня, гаворыцца, што партрэт вельмі спадабаўся юбіляру.

Гэта — яшчэ адзін штрых у творчай біяграфіі юнага мастака. У свае дзесяць гадоў Яраслаў Сафонаў з'яўляецца лаўрэатам і дыпламантам некалькіх міжнародных конкурсаў, што праводзіліся ў Германіі і Расіі. У хлопчыка ўжо было пяць персанальных выстаў у Брэсце і Мінску, прычым першая адбылася тады, калі яму было ўсяго восем гадоў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Бывай, рэжысёр

Учора на Усходніх могілках Мінска пахаваны вядомы рэжысёр Віктар ШАВЯЛЕВІЧ, які памёр 14 чэрвеня.

Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Віктар Шавялевіч нарадзіўся ў 1947 годзе. 30 гадоў жыцця ён прысвяціў стварэнню дакументальных, мастацкіх і відэафільмаў. Ім створана больш за 70 работ, з якіх сем — мастацкія карціны. У 1998 годзе рэжысёр быў узнагароджаны Дзяржпрэміяй у намінацыі "Кіно і тэлебачанне" за дакументальныя стужкі "Шлях да святыні", "Рабі дабро" і "Місія патрыярха", а ў 1999-м — прэміяй "За духоўнае адраджэнне".

Віктар Шавялевіч працаваў мастацкім кіраўніком дырэкцыі праграм Белтэлерадыёкампаніі, галоўным рэжысёрам "Беларускага кінавідэацэнтра", узначальваў кінастудыю "Крынь". Ён быў першым рэжысёрам, які зняў тэлевізійную пастаноўку балета, — цыкл называўся "Стварэнне". Апошні праект В.Шавялевіча, праца над якім засталася незавершанай, — серыя дакументальных фільмаў аб найноўшай гісторыі Беларусі для тэлеканала АНТ.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Жорж Санд у Мінску

Пасольства Францыі ў Беларусі вырашыла адзначыць двухсотгоддзе з дня нараджэння Жорж Санд мастацкай выставай "Жорж Санд і яе стагоддзе". Мерапрыемства, якое пройдзе з 18 чэрвеня па 1 ліпеня ў Нацыянальным мастацкім музеі, арганізуе галерэя "Зямля людзей" пры падтрымцы Пасольства Францыі і пры ўдзеле Міністэрства культуры Беларусі, Нацыянальнага мастацкага музея, Дома Поль Прутэ ў Парыжы.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Адкрыўся Алімпійскі прэс-цэнтр

У мінскім Палацы воднага спорту адкрыўся Алімпійскі прэс-цэнтр "BelSwissBank". На працягу двух месяцаў, што засталіся да пачатку летняй Алімпіяды ў Грэцыі, прадстаўнікі нацыянальных каманд па розных відах спорту будуць трымаць справаздачу перад журналістамі аб падрыхтоўцы да Гульняў, а пасля заканчэння галоўнай падзеі ў свеце спорту прааналізуюць вынікі сваіх выступленняў у Афінах.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Экспрапрыіравалі пяць літраў самагонкі

У Драгічынскі РАУС (Брэсцкая вобласць) звярнуўся 78-гадовы жыхар вёскі Сіманавічы, які паведаміў, што ў пяць гадзін раніцы трое невядомых у шапачках з прарэзамі для вачэй, падняўшы крук унутраных дзвярэй, праніклі ў дом, аднялі 40 долараў ЗША, 100 тыс. рублёў, адрэзалі тэлевізійны кабель і забралі дзве пляшкі з пяццю літрамі самагонкі.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС аблвыканкама, стала вядома, што злачынства ўчынілі вучань 9-га класа мясцовай школы, які стаіць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх, а таксама 19-гадовы палявод мясцовага сельгаспрадпрыемства і 23-гадовы жыхар Драгічына, які нідзе не працуе, быў тройчы судзімы (апошнім разам у 2000 годзе за разбой) і 1 красавіка вызвалены ўмоўна-датэрмінова.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## У Мінску пачала працаваць рытуальная інфармацыйная лінія

У Мінску пачала працаваць кругласутачная бясплатная рытуальная інфармацыйная лінія.

Цяпер па нумары **073** можна атрымаць звесткі аб тым, дзе праводзяцца пахаванні, колькі гэта каштуе, а таксама дзе можна атрымаць іншыя рытуальныя паслугі. Акрамя таго, па гэтым нумары можна выклікаць на дом агента па арганізацыі пахавання.

Штодня ў Мінску паміраюць ад 30 да 60 чалавек, прычым асабліва шмат — пасля вялікіх свят.

Кошт пахавання на трох найбуйнейшых могілках — у Калодзішчах, Міханавічах і Дубянцах — складае 60 тысяч рублёў. Паслугі крэматорыя, што размешчаны на Паўночных могілках, складаюць 120 тысяч рублёў.

Да канца года пад Мінскам плануецца адкрыць яшчэ адны могілкі плошчай пяць гектараў.

**Лавінія АРЭШКА.**

